• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

13 чэрвеня 1998 г. субота, № 122 (23473)



# ЗВЯЗДА

## АБВАЛЬНАГА РОСТУ ЦЭН НА МЯСНЫЯ І МАЛОЧНЫЯ ПРАДУКТЫ НЕ БУДЗЕ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 11 чэрвеня пабываў у адкрытым акцыянерным таварыстве «Мліпекс» і на малаказаводзе № 3, наведаў фірменны магазін. Ён азнаёміўся з умовамі працы работнікаў, прадукцыяй, якую выпускаюць на прадпрыемствах. А гэта дзесяткі назваў тварагу, сыркоў, малака і іншых малочных прадуктаў, якія кожны дзень паступаюць на стол мінчан.

Многіх жыхароў сталіцы хвалюе пытанне аб росце цэн на малочныя прадукты. І не выпадкова. Вядома, што вытворцы настойваюць на іх павышэнні, сцвярджаючы, што выпуск харчовых тавараў становіцца стратным. Аднак сёння на прылаўках магазінаў няма харчовых тавараў, на якія мэтазгодна павышаць цэны, лічыць прэзідэнт. Неабходна пашырыць асартымент прадукцыі і на прылаўкі магазінаў у бліжэйшы час паставіць шэсць гатункаў тварагу і дзесяць гатункаў каўбасных вырабаў. Толькі тады, на думку Аляксандра Лукашэнкі, магчыма павышэнне цэн вышэй за ўзровень інфляцыі на іх асобныя гатункі.

Кіраўнік дзяржавы застаўся задаволены якасцю мяснoй і малочнай прадукцыі, якую вырабляюць на мінскіх прадпрыемствах, адзначыўшы пры гэтым, што жыхары рэспублікі аддаюць перавагу айчынным прадуктам харчавання.

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

*ЦЭНЫ*

## ПАСЛУГІ СУВЯЗІ МОГУЦЬ «ПАДРАСЦІ» Ў ЦАНЕ

**Міністэрства сувязі мае намер у бліжэйшы час у чарговы раз павялічыць тарыфы на свае паслугі.**

Як паведаміла карэспандэнту «Звязды» начальнік упраўлення эканомікі і фінансаў міністэрства Ларыса Лабковіч, зараз гэтае пытанне актыўна абмяркоўваецца з Камітэтам цэн Мінэканомікі, ад якога, дарэчы, найперш і залежыць прынятае рашэння аб павелічэнні тарыфаў. Міністэрства сувязі прапануе павялічыць іх недзе на 20 працэнтаў, але па асобных пазіцыях. Найперш прапанова аб павелічэнні датычыць абаненцкай платы за карыстанне тэлефонам, а таксама ўнутрыгарадскіх і міжгародніх размоў па краіне. Прычына — стратнасць гэтых відаў паслуг.

«Мы б хацелі, каб тарыфы на паслугі раслі штомесяц у межах дазволеных двух працэнтаў інфляцыі, — адзначыла Ларыса Пятроўна, — аднак кошт асобных нашых паслуг настолькі малы, што часам зрабіць пераразлік з улікам гэтых двух працэнтаў немагчыма ды і немэтазгодна. Апошні раз тарыфы на паслугі міжгародняй і гарадской тэлефоннай сувязі ў сярэднім на 10 працэнтаў павялічваліся 11 сакавіка, перад гэтым — 1 кастрычніка 1997 года. Між тым узровень інфляцыі за мінулы год склаў 163 працэнты, а тарыфы на паслугі сувязі былі за той жа тэрмін павялічаны толькі на 135 працэнтаў».

На думку Ларысы Лабковіч, прапанова павялічыць тарыфы на асобныя віды паслуг на 20 працэнтаў ніколькі не выбіваецца з рамак славутых двух працэнтаў інфляцыі ў месяц, таму гаварыць аб нейкім вялікім росце цэн на паслугі сувязі не даводзіцца. Інакш кажучы, дазволены ўзровень павелічэння ў месяц падсумоўваецца за пэўны перыяд (так у свой час было і з павелічэннем тарыфаў на паслугі пасажырскага транспарту). Тым больш, як заўважыла Ларыса Пятроўна, Камітэт цэн наўрад ці зацвердзіць гэтыя самыя 20 працэнтаў. Верагодна, лічба будзе крыху меншая.

Што датычыць тэрмінаў змянення тарыфаў, карэспандэнту «Звязды» было сказана: «Мы спадзяёмся, што з пачатку наступнага месяца».

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



Аддзяленне экстраннай хірургіі дзіцячага хірургічнага цэнтра Мінска. Дзіцячы хірург-эндаскапіст **Аляксандр СВІРСКІ** з чатырохгадовай **Кацяй ФЕРАГА.**

**Фота Анатоля КЛЯШЧУКА.**

# «КАЛІ АБЯЦАЛА «ЗВЯЗДА» — НЕ ПАДМАНЕ!»

Шчыра кажучы, калі везлі адзін з нашых галоўных прызоў мінулага розыгрышу «звяздоўскай» латарэі сярод падпісчыкаў — індычанят — яе пераможцы Марыі Антонаўне Суша з Чэрвеньскага раёна, крыху хваляваліся. Як-ніяк, столькі часу прайшло, а жывы прыз вязём толькі зараз. Але на тое былі свае аб'ектыўныя прычыны: птушак прыйшлося браць на Маладзечанскай птушкафабрыцы (бліжэй індычанят нідзе не было), а везці іх у халады — гарантаваная для крыхкіх доўганогіх «пылянятаў» смерць. А потым, як на бяду, цяжкая спякота. Ды і з Марыяй Антонаўнай ніяк не звязаўшыся, не заспакоіш — не паведаміла пераможца дакладнага адраса. Нарэшце ўсё ж рызыкнулі — і праз кожныя некалькі кіламетраў няблізкага шляху ўсё заглядвалі ў багажнік: як там жывы прыз? На шчасце, усё абышлося — давезлі індычанят у вёску Новыя Зелянкі жывымі і здаровымі.

— Што вы, а я асабліва і не хвалявалася, — заспакоіла нас Марыя Антонаўна. — Хаця і на вуліцы, і ў магазіне часам жартавалі: дзе, маўляў, твой прыз, чаму не вязуць індычанят? А я кажу: «Звязда» — газета сур'ёзная, калі абяцалі, значыць прывязуць. Дарэчы, чамусьці чакала вас якраз недзе ў сярэдзіне чэрвеня. Раней, вядома, немагчыма было».

Марыя Антонаўна зараз на пенсіі, як і яе муж. На дваіх — больш як 90 гадоў працоўнага стажу. «Усё жыццё, з 1946 па 1991 год, на палявых работах, працавала тут, у саўгасе. Тут жа працаваў і муж, апошнія гады быў завршчыкам». За гэты час муж і жонка Сушы не толькі працавалі, але і выгадавалі пяцярых дзяцей. Дарэчы, адзін з сыноў якраз і запаўняў купон на ўдзел у латарэі.

Мы парадаваліся, што наш жывы прыз трапіў, як кажуць, па прызначэнню. Хоць і на пенсіі гаспадары, але гаспадарку трымаюць вялікую: карова, свінні, куры. Дваццаць індычанят ва ўзросце 43 дзён (ужо вялікія птушкі) тут жа былі «пастаўлены на пастой» у вялікім хляве. Марыя Антонаўна шчыра парадавалася ўдачы, якая напаткала іх сям'ю, і ўжо наўздагон нашай машыне нечакана запыталася: куды пісаць нам запрашэнне ў госці? «Дасылайце зноў купон на наш розыгрыш прызоў, выйграваўце парсючка, а адрас ваш мы ўжо ведаем — самі прыедзем», — паабяцалі нам гаспадыні.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



***На здымку: «звяздоўскі» жывы прыз у надзейных руках.***

*КРЫМІНАЛ*

## ЗАТРЫМАНЫ ХАБАРНІКІ

Пракуратурай Гродзенскай вобласці завершана следства і крымінальная справа накіравана ў суд у адносінах да старшага оперупаўнаважанага АЭЗ Гродзенскага аблвыканкама. У 1996 годзе ён схіліў даць хабар службовым асобам Гродзенскага медвучылішча ў суме 500 долараў ЗША сваю знаёмую О. Крышаловіч. Атрымаўшы ад апошняй 500 долараў, грошы прысвоіў. Ён жа, выконваючы асобныя даручэнні следчага па крымінальнай справе па абвінавачванню Н. Маланчыка схіліў апошняга да дачы хабару службовым асобам, якія праводзілі следства, для змянення меры спынення і змякчэння абвінавачвання. Атрымаўшы ад Маланчыка 2 тысячы долараў ЗША, супрацоўнік міліцыі ўказаную суму таксама прысвоіў. Пракуратурай абвінавачваемы арыштаваны.

Пракуратурай Берастаўіцкага раёна накіравана ў суд крымінальная справа па абвінавачванню старшага інспектара Гродзенскай рэгіянальнай мытні В. Сахнова, які ў сакавіку 1998 г. на тэрыторыі мытнага паста «Берастаўіца-2» наўмысна доўгі час не афармляў мытных дакументы жыхарам Славакіі Грофу Густаву і Чэхіі -- Крэйчы Лабару, якія ехалі ў Беларусь, у выніку чаго ўказаныя грамадзяне былі вымушаны даць Сахнову хабар у нямецкіх марках.

Пракуратурай Брэсцкай вобласці арыштаваны старшыня калгаса імя Чкалава А. Кузьміч, які абвінавачваецца ў дачы хабару ў выглядзе 1 тыс. долараў ЗША і 4 літраў самагону рэвізору-кантралёру КРУ аблсельхарча Н. Зелянко.

Беларускай ваеннай пракуратурай узбуджана крымінальная справа ў адносінах да маёра в/ч 2044 С. Марцьянава па прыметах злачынства, прадугледжанага арт. 249 п. «а» КК РБ (злоўжыванне ўладай), які, праходзячы службу на пасадзе намесніка начальніка аддзялення пагранічнага кантролю «Дацішкі», па дагаворанасці з грамадзянінам Літвы злоўжываў службовым становішчам: не выязджаючы за межы Рэспублікі Беларусь, на працягу 2 гадоў афарміў увоз на імя сваёй маці 5 аўтамабіляў.

**Аляксей ТАРАНАЎ.**

## БЕЛАРУСКАЯ ЗБРОЯ Ў МАСКВЕ

На міжнароднай зброевай выставе ў Маскве прадстаўлена звыш 100 кампаній і фірмаў. У іх ліку Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне. Выставу наведаў вядомы канструктар зброі М. Калашнікаў.

Як паведаміў намеснік генеральнага дырэктара БелОМА В. Кіскін, прадстаўленыя на выставе узоры з Беларусі выклікалі цікавасць у бізнесменаў шэрагу краін -- ад Карэі і В'етнама да Егіпта і іншых дзяржаў Афрыкі. Шэраг узораў (прыцэлы, прыборы начнога бачання) перададзены таксама для пастаяннай экспазіцыі ў Выставачна-інфармацыйны цэнтр пасольства Беларусі ў Маскве.

**Станіслаў БЕРЫБУЛАЎ -- спецыяльна для «Звязды»**

***УСМІХНЕМСЯ!***

*«Новы беларус» едзе на шасцісотым «Мерсэдэсе», а наперадзе праз вуліцу па пешаходным пераходзе дзядок дарогу пераходзіць. «Новы беларус» выбягае з машыны і — на дзеда:*

*— Для вас жа, казлоў, падземны пераход пабудавалі, шастаеце тут...*

*Дзед прыходзіць дадому і кажа бабцы:*

*— Сёння такі ветлівы малады чалавек трапіўся. На «вы» называў і аднекуль празвішча ведае.*




**Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.**



*Георгій ІГНАТОВІЧ:*

# «БЕЛПОШТА» ЗАЦІКАЎЛЕНАЯ Ў АДСУТНАСЦІ ПРЭТЭНЗІЙ, РЭКЛАМАЦЫЙ З БОКУ СПАЖЫЎЦА...»

**(Заканчэнне. Пачатак у № 119).**

**Марына Пятроўна АЖОЙЧЫК, г. Мінск.**

***— Мяне цікавіць наступнае пытанне. Які працэнт забірае пошта за аказанне паслуг па грашовых пераводах — напрыклад, пры перасылцы аліментаў альбо ганарару?***

— Тарыфная плата за перасылку грашовых пераводаў з аліментамі бярэцца па тарыфах для насельніцтва і складае па мясцовых пераводах (тых, якія перасылаюцца ў межах горада, а ў сельскай мясцовасці ў межах тэрыторыі абслугоўваемай адным аддзяленнем сувязі) — 5 працэнтаў ад сумы пераводу. За пераводы з сумамі аліментаў, якія не адносяцца да мясцовых, аплата бярэцца ў памеры 10 працэнтаў ад сумы пераводу.

Тарыф за перасылку грашовых сродкаў з ганарарамі залежыць ад таго, хто аплачвае гэту паслугу. Пры аплаце перасылкі пераводам за кошт сродкаў адправіцеля (арганізацыі, прадпрыемствы, установы) плата бярэцца ў памеры 20 працэнтаў ад сумы пераводу, па мясцовых — 10 працэнтаў. Калі аплата ажыццяўляецца за кошт атрымальніка, шляхам памяншэння агульнай сумы ганарара на памер аплаты, прымяняецца адпаведны тарыф: 10 працэнтаў, 5 працэнтаў.

**Сяргей Іванавіч, Барысаў:**

***— Георгій Яўгенавіч, ці не здарылася так, што са змяненнем эканамічнай сітуацыі пазачыняліся некаторыя аддзяленні сувязі? Ці ёсць праблемы з дастаўкай паштовай карэспандэнцыі, газет на вёсцы?***

— Праблем, безумоўна, хапае. І дзіўна было б, калі б іх паменела альбо вырашаліся ўсе яны даволі проста. Але адразу заўважу, што вёска з поля зроку не выпала. Аддзяленні сувязі ў нас не пазачыняліся. Хаця, канешне ж, знізіліся аб'ёмы падпіскі, ды і аб'ёмы паштовай карэспандэнцыі таксама. Дзесьці павялічылі колькасць абслугоўваемых паштальёнам вёсак. Месцамі людзі задзейнічаны ў нас няпоўны працоўны дзень. Але ж імкнёмся да таго, каб ніводзін, няхай сабе і ў пяць двароў, населены пункт не застаўся па-за нашай увагай. І яшчэ адзін істотны момант. У нас з'явілася новая форма абслугоўвання — перасоўнае аддзяленне сувязі.

***— І якім чынам яно працуе?***

— Нешта накшталт добра знаёмай у глыбінцы аўталаўкі. У дакладна вызначаны час і дакладна вызначанае .месца прыбывае паштовая машына. І насельніцтву на працягу, скажам, гадзіны аказваюцца традыцыйныя паслугі — прыём паштовых пераводаў, звычайнай карэспандэнцыі, пасылак, продаж не толькі традыцыйнай нашай прадукцыі, але таксама і тавараў шырокага попыту.

**Аляксандр Міхайлавіч, Мінск.**

***— Георгій Яўгенавіч, у мяне не пытанне, а вось што... Карыстаючыся нагодай, прадастаўленай газетай «Звязда», хацеў бы выказаць самыя добрыя словы ўдзячнасці ў адрас работнікаў 13-га паштовага аддзялення горада Мінска. Даволі часта даводзіцца туды завітваць з рознымі клопатамі. І заўсёды бачу, з якой уважлівасцю ставяцца паштовыя работнікі да кожнага кліента. Здараецца, старому чалавеку сёе-тое падаецца незразумелым, дзяўчаты адразу ж растлумачаць, дапамогуць разабрацца, падкажуць, як лепей зрабіць у той альбо іншай сітуацыі. Словам, прыемныя, сімпатычныя людзі працуюць у 13-м паштовым аддзяленні. Радуе і знешні выгляд памяшкання, у якім размешчана паштовае аддзяленне.***

— Дзякуй, Аляксандр Міхайлавіч, за добрыя словы. Нам вельмі прыемна, калі ўзровень абслугоўвання задавальняе кліента. Дарэчы, скаргаў з месцаў да нас паступае не так ужо і шмат. Што датычыць знешняга выгляду, то сур'ёзны рамонт праведзены не толькі ў 13-м паштовым аддзяленні сталіцы, але і шмат дзе яшчэ. Відаць, многія мінчане і госці сталіцы заўважылі, што істотна змянілася і аблічча Галоўпаштамта. Зараз, як мне падаецца, і выгляд яго залы, тэхнічнае насычэнне — усё гэта адпавядае еўрапейскім стандартам.

**Сяргей Пятровіч ПАЎЛЕНКА, Мінск:**

***— Георгій Яўгенавіч, часта бываючы ў розных паштовых аддзяленнях, звярнуў увагу, што вельмі ўжо шмат нетрадыцыйнага як быццам тавару, калі мець на ўвазе прызначэнне пошты...***

— Сапраўды, галоўнае наша прызначэнне — аказанне паштовых паслуг: перасылка карэспандэнцыі, грашовых пераводаў, дастаўка газет і часопісаў і г. д. Але ж, асабліва ў сельскай мясцовасці, прыкметнае месца пачынае займаць у нас і гандаль таварамі шырокага попыту. Чаму? Прычыны на тое, відавочна, дзве. Першая — сама пошта пашырае колькасць паслуг, імкнецца і такім чынам, праз гандлёвую дзейнасць, зарабляць грошы. Між іншым, да 5—7 працэнтаў у агульным паступленні сродкаў складае якраз тое, што прыносіць нам нетрадыцыйны, як вы кажаце, гандаль. І другое (гэта ў большай ступені датычыцца, канешне ж, не горада, а вёскі) — паштовыя аддзяленні вырашаюць праблемы насельніцтва часам нават лепей, чым звычайныя гандлёвыя кропкі. Гандлёвыя надбаўкі на пошце мінімальныя і тавары таннейшыя, чым у другіх гандлёвых кропках. Паштальёны па заяўках насельніцтва, асабліва пажылых людзей даносяць тавары на дом у самыя аддаленыя вёскі.

Дарэчы, аказваем мы і іншыя паслугі. Вымушаны аказваць. Выконваем пасрэдніцкія паслугі. Напрыклад на дагаварной аснове з прадпрыемствамі бытавога абслугоўвання ажыццяўляем прыём ад насельніцтва заказаў на рамонт бытавой тэхнікі, абутку і г. д. Дастаўляем усё гэта ў райцэнтр, а пасля рамонту прывозім назад. Такім чынам пазбаўляем людзей лішніх клопатаў, эканомім іх час і грошы. У многіх паштовых аддзяленнях паставілі ксераксы. На вёсцы паштовыя машыны дапамагаюць кінафікацыі — перавозім скрынкі з фільмамі. Словам, імкнёмся максімальна і людзей задзейнічаць, і нейкую капейчыну зарабіць.

**Аляксандр Андрэевіч, Мінск.**

***— Георгій Яўгенавіч, скажыце, калі ласка, вось апошнім часам пачалі ў горадзе з'яўляцца і вашы — «Белпошты» — газетна-часопісныя кіёскі. Мне падаецца, што гэта станоўчая тэндэнцыя. Але чаму ўсё ж так няшмат вашых кропак?***

— Усяго ў нас за апошнія паўтара года адкрылася чатырнаццаць кіёскаў. І надалей будзем працягваць гэтую працу. Пагадзіцеся, вельмі важна, калі гандлёвая кропка размешчана ў людным месцы, прама на вуліцы. Тады і тавар, у тым ліку і газеты, часопісы, паштовая прадукцыя, разыходзіцца нашмат хутчэй.

**Сімаровіч Валянцін Ігнатавіч, Мінск:**

***— Прыходжу на паштовае аддзяленне, каб адправіць бандэроль. Не прымаюць з-за таго, што запакаваў дома. Ці правамерна гэта?***

— Так, быў нейкі час, калі, згодна з указаннем Міністэрства сувязі, усе паштовыя адпраўленні (маецца на ўвазе пасылкі, бандэролі і г. д.) павінны былі прымацца ў адкрытым выглядзе. Датычылася гэта і ўсёй заказной карэспандэнцыі. Цяпер заказныя пісьмы, заказныя бандэролі выключаны са згаданага спіса. Але па-ранейшаму пасылкі, увогуле аб'ёмныя ўкладанні прымаюцца да адпраўкі ў адкрытым выглядзе. Прычына такога рашэння — бяспека паштовых работнікаў, а таксама нашых кліентаў. На жаль, такое пытанне, уласцівае раней замежжу, паўстала і перад намі.

**КАСОЎСКАЯ Марыя Іванаўна, Мар'іна Горка:**

***— Сын — афіцэр. Разам з сям'ёй жыве ў Казахстане. Часта карыстаемся паслугамі «Белпошты». Але чамусьці вельмі марудна ідуць туды, у Казахстан, бандэролі, пасылкі.***

— І ў Казахстан, і ў Расію праходжанне пасылак, канешне ж, не такое ўжо і хуткае, як хацелася б. Хаця, калі гаварыць пра нашы ўласныя абавязкі перад кліентам, то пасылкі, бандэролі ў Маскву трапляюць не пазней як на другі-трэці дзень з дня атрымання ад кліента. Што датычыцца кантрольных тэрмінаў, устаноўленых заканадаўча па Расіі, то яны дасягаюць 15—17 дзён. Дадайце да гэтага яшчэ магчымыя збоі. Вось і атрымліваецца, што пасылкі ідуць месяц, а то і болей. Тое самае і з Казахстанам, відаць. Дарэчы, тут шлях пасылак, бандэроляў наступны. Калі авіяпоштай, то на другі дзень пасля атрымання ў кліента пасылка аказваецца ў Маскве. А тады ўжо самалётам — на Алма-Ату. Калі кліент карыстаецца звычайнай поштай, то на чацвёрты дзень чыгунка павінна даставіць адпраўленне ў Ташкент, а ўжо адтуль — у Казахстан. Нягледзячы на ўсе складанасці, мы і зараз спрабуем паўплываць на тэрміны праходжання пасылак.

У рамках дзейнасці СНД існуе камісія па паштовай сувязі, куды ўваходзяць прадстаўнікі ад усіх дзяржаў. Цяпер распрацоўваем спецыяльную праграму якасці. Будуць, відавочна, прыняты нарматывы, перагледжаны кантрольныя тэрміны. Але ж сённяшняя самастойнасць дзяржаў не дазваляе асабліва рашуча ўплываць на працэсы, якія адбываюцца ўнутры іншых краін. Прыкладам, нас здзіўляе, як гэта атрымліваецца, што пісьмо, трапіўшы з Беларусі ў Маскву на другі дзень пасля яго адпраўлення, блукае па расійскай сталіцы да дзевяці дзён. У адказ на наша здзіўленне ў Маскве рэагуюць даволі канкрэтна: у нас такія, а не іншыя магчымасці, свайму кліенту мы растлумачылі, што каб працаваць лепей, хутчэй — патрэбны істотныя капіталаўкладанні.

**Запіс «прамой лініі» падрыхтаваў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

***XXVI чэмпіянат свету па футболу***

## ІТАЛЬЯНЦЫ МОГУЦЬ ПАДУМАЦЬ І ПРА СПАГЕЦІ

*Крысціян В'еры забяспечыў усю каманду самым лепшым вінам, а Раберта Баджо — добрым настроем.*

Неадназначную рэакцыю сярод балельшчыкаў выклікаў нічыйны вынік матча ў групе «В» паміж зборнымі Італіі і Чылі, які прайшоў у Бардо на стадыёне «Парк Лекюрэ» ў прысутнасці 35 тысяч гледачоў.

Чылійцы радуюцца, але пры гэтым клянуць суддзю за «ўкрадзеную перамогу». Іх думка такая: пенальці нельга было назначаць, паколькі гульня рукой абаронцы ў штрафной пляцоўцы не была наўмыснай. Сваё абурэнне рашэннем арбітра выказаў нават прэзідэнт краіны Эдуардо Фрэй, які сочыць за ходам сусветнага першынства з Нью-Йорка, дзе ён знаходзіцца з візітам. Як і ўсе чылійцы, ён быў уражаны гульнёй Марсела Саласа, якога ў Чылі называюць не інакш як «Матадорам». Парадаваў краіну і Іван Самарана. Менавіта на гэтую пару, якую называюць ў Чылі «Са-Са», чылійскія фанаты ўскладваюць асноўныя надзеі.

Італьянцы не выказвалі ніякіх абурэнняў у адрас арбітра хаця б за тое, што ён зацягнуў гульнявы час першага тайма, дзякуючы чаму чылійцы зраўнялі лік.

Капітан зборнай Італіі, паўабаронца Паоло Мальдзіні сказаў, што на зыход матча паўплывала «некаторае перадстартавае хваляванне, а таксама эмацыянальны стан ігракоў. Адразу ж пасля пачатку гульні мы маглі быць наперадзе ужо з лікам 2:0».

Раберта Баджо, які забіў другі гол у вароты сапернікаў, зазначыў, што «першы матч на сусветным першынстве заўсёды цяжкі. Я задаволены, што ён закончыўся з такім лікам». Абаронца італьянскай зборнай Александро Неста прызнаў, што «мы зрабілі дзве сур'ёзныя памылкі, за якія заплацілі двума галамі. Цяпер мы пастараемся зрабіць з іх высновы»,—сказаў ён.

Цікава, што ігрок зборнай Італіі, які першым забіў гол на цяперашнім чэмпіянаце свету, незалежна ад зыходу сустрэчы, — а ім стаў форвард В'еры — атрымае 263 бутэлькі самага лепшага італьянскага віна. Такі падарунак яму падносіць Асацыяцыя вінаробаў Фларэнцыі...

Яшчэ адзін матч групы «В» (Камерун—Аўстрыя) завяршыўся ўнічыю - 1:1. Учора ж на чэмпіянаце свету прайшлі тры сустрэчы: Саудаўская Аравія — Данія, Францыя — Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка (гр.«С») і Парагвай — Балгарыя (гр.«Д»). Сёння — яшчэ тры матчы: Галандыя — Бельгія, Паўднёвая Карэя — Мексіка (гр.«Е»), Іспанія — Нігерыя (гр.«Д»).

А ў гэты час... Некаторыя ўдзельнікі чэмпіянату ўскладваюць надзеі на ...Бога. Адзін румынскі свяшчэннік спецыяльна праехаў праз ўсю Румынію для таго, каб перадаць асабіста ў рукі трэнеру зборнай Румыніі Ангелу Іарданеску «цудадзейны элексір», які складаецца са «святой вады, настойкі базіліку, аліўкавага алею і мёду». Для перамогі над сапернікам дастаткова перад гульнёй акрапіць кожнага ігрока гэтай сумессю і прымусіць яго тройчы перахрысціцца. А для поўнай удачы патрэбна папырскаць таксама і на сетку футбольных варот, тады мяч наогул «не зможа трапіць у яе». Так гэта ці не, стане вядома толькі 15 чэрвеня, калі румыны ў сваім першым матчы ў Ліёне сустрэнуцца з калумбійцамі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ЗВЯРТАЕМ УВАГУ

Апошнім часам пачасціліся выпадкі, калі пэўныя суб'екты гаспадарання шляхам размяшчэння рэкламы ў сродках масавай інфармацыі прыцягваюць грамадзян да ўдзелу ў «гульні».

Прапануецца запоўніць анкету з указаннем адрасных даных для пералічэння грашовых сродкаў на рахункі гэтых прадпрыемстваў з мэтай набыцця тавараў накладной платай. Грашовыя сродкі, атрыманыя ад насельніцтва, выкарыстоўваюцца для ўласных патрэб. Пры праверках такіх прадпрыемстваў устанаўліваецца, што яны, як правіла, не маюць дазволу на такі від дзейнасці, груба парушаюць падатковае заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Такія мерапрыемствы параджаюць шматлікія скаргі насельніцтва рэспублікі ў адрас падатковай інспекцыі з патрабаваннем вярнуць грошы.

ІДПК па Савецкаму раёну г. Мінска растлумачвае, што асноўныя задачы і абавязкі ўскладзены на яе артыкулам 2 і артыкулам 7 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Дзяржаўнай падатковай інспекцыі РБ».

У адпаведнасці з артыкулам 2 названага Закона забараняецца прыцягваць Дзяржаўныя падатковыя інспекцыі для выканання задач, не ўскладзеных на яе заканадаўствам.

Грамадзянам рэспублікі трэба добра падумаць, перш чым рашыцца прыняць удзел у такой «гульні».

**Інспекцыя Дзяржаўнага падатковага камітэта па Савецкаму раёну г. Мінска.**

***Погляд***

# У «ДРАЗДАХ» КАСА НАЙШЛА НА КАМЕНЬ

***Праблема з высяленнем з дачнага комплексу «Дразды» кіраўнікоў 22 замежных пасольстваў за гэты тыдзень яўна перарасла свой першапачатковы тэхнічны статус і набыла сапраўдныя рысы міжнароднага скандалу.***

Вечарам 11 чэрвеня 14 кіраўнікоў дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Мінску, выступілі з сумесным дэмаршам у адрас міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Івана Антановіча з нагоды неправамернага, па іх меркаванню, адсялення некаторых паслоў з урадавага комплексу «Дразды». Дэмарш быў ініцыіраваны пасольствам Вялікабрытаніі, якая цяпер старшынствуе ў Еўрасаюзе. Пасля дэмаршу ў паслоў і міністра Антановіча адбылася даволі працяглая дыскусія. Аб яе выніках некалькі слоў журналістам сказала толькі пасол Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс:

— У нас была доўгая і няпростая дыскусія. Міністр Антановіч стараўся быць канструктыўным і спагадлівым. Мы ўсё яшчэ спадзяёмся на прагрэс, канструктыўны прагрэс. Цяпер жа мы павінны абмеркаваць вынікі нашай размовы з нашымі сталіцамі.

Пасол Вялікабрытаніі не змагла сказаць, ці з'едзе хто-небудзь з яе калег да 17 чэрвеня са сваіх рэзідэнцый.

17 чэрвеня якраз павінен скончыцца тэрмін, які прадоўжыў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, для выезду ўсіх замежных дыпламатаў з «Драздоў». Частка дыпламатаў ужо пакінула свае рэзідэнцыі, у прыватнасці, паслы Балгарыі, Кыргызстана, некаторых іншых краін СНД. Усяго, паводле інфармацыі намесніка начальніка «Дыпсервіса» Алега Новікава, выехала каля дзесяці паслоў. Рэшта ж, а гэта пераважна прадстаўнікі заходніх краін, пакуль адмаўляюцца гэта рабіць. Яны спрабуюць паўплываць на пазіцыю беларускага кіраўніцтва. 10 чэрвеня 17 замежных паслоў звярнуліся з пасланнем да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Аб гэтым «Звяздзе» паведамілі ў інфармацыйнай службе пасольства ЗША, аднак акрэсліць змест гэтага ліста адмовіліся. У іншым пасольстве паведамілі, што ў тым пісьме ідзе размова аб неабходнасці выконваць Венскую канвенцыю аб дыпламатычных адносінах і аб магчымых контрмерах з боку адпаведных замежных дзяржаў.

— Яшчэ нічога не вырашана, у нас яшчэ ёсць шэсць дзён для гэтага, і магчыма, што задавальняючае рашэнне будзе знойдзена,— сказаў карэспандэнту «Звязды» саветнік французскага пасольства Серж Лаўроф. Ён таксама зазначыў, што пасол Францыі Бернар Фасье не збіраецца пакідаць сваю рэзідэнцыю ў «Драздах» і што тыя варыянты замены жылля, якія прапаноўваліся беларускім бокам (у 12-павярховым доме, у комплексе «Крылова»), не былі прызнаныя падыходзячымі. «Калі будзе болей цікавая прапанова, то можна падумаць»,— дадаў ён.

Дарэчы, французскае пасольства тут знаходзіцца ў самым складаным становішчы, бо тэрмін арэнды рэзідэнцыі ягонага пасла заканчваецца ўжо 31 ліпеня гэтага года. У адрозненне, напрыклад, ад амерыканскага, якое арэндуе рэзідэнцыю да 2001 года. Адзін толькі расійскі пасол Валерый Лашчынін можа быць больш-менш упэўнены, што ён вернецца ў сваю рэзідэнцыю, паколькі расійскі бок валодае ёю на праве ўласнасці.

Аднак намеснік начальніка «Дыпсервіса» Алег Новікаў зазначыў, што іх упраўленне нікому не давала абяцанняў на вяртанне ў «Дразды» пасля рамонту, які зойме па плану 14-месячны тэрмін. Па яго інфармацыі, рамонтныя работы пачаліся 10 чэрвеня, аднак будаўнікі пакуль што так падкарэкціравалі план работ, каб да 17 чэрвеня не адключаць ваду і электраэнергію. Пасля гэтага сістэмы жыццезабеспячэння комплексу будуць адключаны, нават калі хтосьці не паспее выехаць з рэзідэнцый.

— Ужо больш як два месяцы таму ў іх была інфармацыя аб тым, што комплекс не можа функцыянаваць. Гэта аб'ектыўная, а не суб'ектыўная прадпасылка. Усім было прапанавана і дадзены час, каб вырашыць гэтую праблему. Калі ім не падыходзілі прапанаваныя варыянты, яны маглі самі сабе пашукаць жыллё на свабодным рынку,— зазначыў карэспандэнту «Звязды» Алег Новікаў.— Прынятае рашэнне аб закрыцці варот комплексу будзе звязана з пытаннямі тэхнікі бяспекі, г. зн. калі будаўнікамі будзе перарыта дарога... Аднак калі хтосьці не паспее выехаць, мы будзем думаць аб запасных, пажарных варотах... Калі ж паслы там застануцца, то гэта права кожнага. Калі мы прапанавалі разарваць дагавор, а яны ўсё роўна знаходзяцца там, то мне цяжка зразумець статус іх знаходжання пасля 17 чэрвеня. Фармальна яны могуць нават паставіць палатку ў лесе і там жыць, і мы ні ў якім разе не будзем парушаць прынцып іх экстэрытарыяльнасці.

— А як быць з тымі сродкамі, якія былі патрачаны на рамонт рэзідэнцый?

— Гэта прадмет дыялога з кожным пасольствам. Мы яшчэ нікому не адмаўлялі ў такім дыялогу. І частка паслоў, якія з'ехалі, ставілі гэтае пытанне і ўжо атрымалі свае грошы назад. Аднак трэба паказаць, што гэтыя грошы былі патрачаны на паляпшэнне будынкаў. Калі ж пан Спекхард заявіў, што ён унёс у перабудову рэзідэнцыі 800 тысяч долараў, то можна ўявіць, што гэта залаты будынак. Таму натуральна, што спецыяльная камісія будзе вызначаць, што зроблена, колькі гэта каштуе, і, калі не будзе заўважана яўных перакосаў, мы грошы абавязкова вернем,— падкрэсліў намеснік кіраўніка «Дыпсервіса».

Такім чынам, можна зрабіць выснову, што сілай нікога з паслоў перасяляць не будуць. Аднак ясна, што і беларускае кіраўніцтва, і паслы будуць настойваць на сваім. Чым вырашыцца гэты канфлікт, цяжка прадказаць. Можа быць і не зусім прыемнае развіццё, калі некаторыя паслы будуць проста адкліканы ў свае сталіцы для кансультацый. А гэта ўжо канфлікт у двухбаковых адносінах. Вядома, што аб магчымасці такога рашэння 9 чэрвеня заявіла прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Францыі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

# У АШЧАДБАНКУ З'ЯВЯЦЦА «НОВЫЯ» АКЦЫІ

**З пачатку наступнага тыдня на рынку каштоўных папер, звязаных з прыватызацыяй дзяржмаёмасці, адбудзецца значнае ажыўленне дзелавой актыўнасці. Справа ў тым, што з 15 чэрвеня ў аддзяленні «Беларусбанка» паступяць у продаж за чэкі «Маёмасць» для насельніцтва акцыі яшчэ 51 прадпрыемства краіны.**

Трэба зазначыць, што акцыі многіх прадпрыемстваў з гэтага пераліку ўжо раней прапаноўваліся грамадзянам, і сёння яны выстаўлены на продаж паўторна. Але ёсць сярод іх акцыі прадпрыемстваў, якія абменьваюцца на чэкі ў аддзяленнях «Беларусбанка» ўпершыню. Гэта адкрытае акцыянернае таварыства «Упраўленне механізацыі-127» (г. Брэст), «Віцебскі прыборабудаўнічы завод», «Міёрскі камбікормавы завод», «Мінскі дрожджавы камбінат», «Гарадзейскі цукровы камбінат», «Слуцкі цукровафінадны камбінат», «Будаўнік-169» (г. Маладзечна), будаўнічае прадпрыемства «ВІД» (г. М. Горка).

Спецыялісты Міндзяржмаёмасці лічаць, што акцыі менавіта гэтых таварыстваў будуць мець павышаны попыт у насельніцтва. На жаль, нават сярод гэтых 8 прадпрыемстваў акцыі толькі Віцебскага прыборабудаўнічага завода і Слуцкага цукровафінаднага камбіната будуць абменьвацца на чэкі па ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Гарадзейскі цукровы камбінат распаўсюджвае свае пакеты акцый толькі ў Мінскай вобласці, а ААТ «Упраўленне механізацыі-127» — у Брэсцкай. Астатнія акцыі гэтых «новых» прадпрыемстваў будуць абменьвацца па месцы іх знаходжання. Усяго колькасць прапануемых у абмен на чэкі «Маёмасць» акцый павялічыцца яшчэ на 2595 тысяч штук. Ужо з панядзелка ў аддзяленнях Ашчадбанка будуць выстаўлены на продаж пакеты акцый 116 акцыянерных таварыстваў, што дазволіць абмяняць на іх каля 24 млн. чэкаў.

Тэрмін абмену акцый на чэкі гэтага пераліку ўстаноўлены з 15 чэрвеня па 15 снежня гэтага года. Па словах начальніка ўпраўлення камітэта па размеркаванню акцый Мікалая Круцько, праз 3 месяцы пасля пачатку продажу акцый камітэт мае права пераразмяркоўваць пакеты акцый паміж філіяламі Ашчадбанка ў залежнасці ад попыту і прапанавання. Пасля 6 месяцаў продажу астаткі пакетаў акцый, якія не знайшлі попыту ў насельніцтва, будуць забірацца з аддзяленняў «Беларусбанка» і прадавацца іншымі спосабамі — праз аукцыёны ці на біржы.

Нягледзячы на тое, што зараз насельніцтву прапануецца дастаткова акцый многіх акцыянерных таварыстваў, даволі стабільнага попыту на іх няма. Так, па словах начальніка Галоўнага ўпраўлення абарачэння каштоўных папер Зінаіды Шаўчэнка, 3 мільёны 125 тыс. грамадзян краіны хаваюць чэкі дома ў «панчохах», 450 тыс. жыхароў рэспублікі прадалі чэкі за бесцань, 323 тыс. — пераафармілі на іншых асоб, 204 тыс. — аддалі ў спецінвестфонды. Толькі каля 100 мільёнаў чэкаў патрачана на набыццё акцый, а астатнія 330 мільёнаў, здаецца, чакаюць лепшых часоў. Зараз у краіне штомесяц абменьваецца на акцыі меней як 900 тыс. чэкаў. Калісьці гэта лічба вагалася каля мільёна, а ў добрыя часы нават дасягала 1,5 мільёна. А што будзе далей? Здаецца, насельніцтва нібыта забыла, што ў краіне ідзе (праўда, даволі квола. — С. К.) чэкавая прыватызацыя. Кіраўніцтва Міндзяржмаёмасці разумее, што з такімі тэмпамі яна можа зацягнуцца гадоў на 10. Як стала вядома карэспандэнту «Звязды» з кампетэнтных крыніц Міндзяржмаёмасці, сёння ў гэтым міністэрстве рыхтуецца наступны спіс пераліку акцыянерных таварыстваў, акцыі якіх будуць абменьвацца на ІПЧ «Маёмасць» праз «Беларусбанк». У новым пераліку, па меркаванню распрацоўшчыкаў ідэі, будуць прапанаваны акцыі 70 «новых» прадпрыемстваў. Гэта дазволіць «выкінуць» на рынак каштоўных папер каля 10 мільёнаў акцый. Супрацоўнікі плануюць падрыхтаваць гэты пералік і пачаць згодна з ім продаж акцый ужо з 15 жніўня гэтага года.

**Сяргей КУРКАЧ.**



# БЯСПЛАТНАЙ ВАДЫ БОЛЬШ НЕ БУДЗЕ?

**Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі канчаткова вызначыла свае прапановы наконт чарговага павышэння тарыфаў на паслугі галіны. Сярод варыянтаў абраны самы аптымальны — давядзенне плацяжоў насельніцтва за водазабеспячэнне і каналізацыю да ўзроўню поўнага пакрыцця бягучых страт на іх аказанне.**

АПОШНІ РАЗ ТАРЫФЫ НА ГЭТЫЯ ПАСЛУГІ павышаліся 16 красавіка. Тады ў пастанове Мінэканомікі было вызначана: устанавіць гранічныя каэфіцыенты павелічэння плацяжоў насельніцтва ў наступных памерах: халоднае водазабеспячэнне — 1,3, каналізацыя — 1,3.

Таксама мясцовым выканаўчым уладам было рэкамендавана знайсці магчымасць для паніжэння тарыфаў на гэтыя паслугі для юрыдычных асоб (так званых «іншых спажыўцоў» — прамысловых прадпрыемстваў). Такая парада была агучана зусім не выпадкова: не сакрэт, што заводы і фабрыкі карыстаюцца сёння той жа вадой па цэнах, якія значна вышэй за яе сабекошт. А атрымліваецца так таму, што за паслугу недаплачвае насельніцтва: яшчэ па красавіцкіх разліках жыхары за водазабеспячэнне плацілі толькі 28,7 працэнта нарматыўнага сабекошту, а за каналізацыю — 37,2 (гэтыя віды з'яўляюцца ці не самымі стратнымі). Лічыце самі: па першай насельніцтва недаплачвае 72,3, па другой — 63,8 працэнта. Нават пры самых прыблізных падліках тарыфы для прамыслоўцаў узрастаюць удвая (але, паўтаруся, гэта толькі самыя прыблізныя падлікі).

Сабекошт водазабеспячэння на пачатак года быў роўны 2780 рублям за кубаметр, каналізацыі — 2090. На той час тарыфы для насельніцтва былі вызначаны ў 569 і 559 рублёў адпаведна (пасля красавіцкага павышэння — у 740 і 727). Загадам міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі былі зацверджаны нарматывы сабекошту паслуг (сюды ўвайшлі водазабеспячэнне, водаадвядзенне, цеплазабеспячэнне (уласнай вытворчасці), эксплуатацыя жылфонду і гарадскі электратранспарт). Камунальнікі, так бы мовіць, чапляліся за апошні шанц — хоць нейкім чынам стабілізаваць становішча нават не ў галіне ўвогуле, а ў асобнай яе частцы, якая на 95 працэнтаў з'яўляецца іх манаполіяй.

Тым не менш, пасля чарговага павышэння доля водазабеспячэння ў агульнай суме плацяжоў насельніцтва па-ранейшаму займала 10 працэнтаў. За ацяпленнем значылася большая «вага» — 40 працэнтаў. Як бачым, пасля правядзення ў жыццё паўмераў неабходнага эфекту не атрымалася — у тарыфным «пытанні» зноў пачалі ўзнікаць цяжкасці, вырашыць якія з дапамогай чарговага 20—30-працэнтнага павышэння было немагчыма: дэбіторская запазычанасць жыллёва-камунальнай галіны вагалася ў межах астранамічнай лічбы — 2 трыльёны рублёў.

Аздараўленне фінансавага стану прадпрыемстваў камунальнай галіны (дакладней, той яе часткі, якая адказвае за водазабеспячэнне) — так вызначаюць камунальнікі мэтазгоднасць сваёй апошняй прапановы.

Яна датычацца не поўнай ліквідацыі цяжару непасільных плацяжоў за ваду заводаў і фабрык, але, тым не менш, уяўляе сабой рашучы крок наперад у гэтым накірунку. Нарматывы ў грашовым выражэнні, паводле меркаванняў камунальнікаў, цяпер павінны будуць зацвярджаць менавіта выканкамы — такім чынам ажыццяўляецца рэгуляванне тарыфаў у залежнасці ад умоў прадастаўлення паслугі. Якасць водазабеспячэння на гэтым этапе закладваецца ў катэгорыі непахісных стандартаў — колькасць, перыядычнасць і г. д.. Спачатку адбудзецца рэгуляванне кошту паслугі па рэгіёнах — па падліках спецыялістаў, дзесьці ў межах 40—50 тысяч рублёў. Тут маюцца на ўвазе розныя сістэмы, глыбіня, тып водазабору і шэраг іншых фактараў. Адразу ўзнікне «дарагая» і «танная» вада, якая пакуль не з'яўляецца «якаснай» і «дрэннай». Уся справа ў тым, што ўпершыню, калі Міністэрства эканомікі зацвердзіць прапанову Мінжылкамунгаса (а яно мае такое права), у частцы жыллёва-камунальнай гаспадаркі з'явіцца магчымасць дасягнуць пэўных вышынь у сваім развіцці. Выйсці з сістэмы датацыйнага існавання, стварыць прэцэдэнт (які пакуль што існуе толькі ў выглядзе папер) новага, эканамічна абгрунтаванага тарыфу. Прычым гэты паказчык у адпаведнасці з прапановамі адразу індэксуецца на 24 працэнты і потым штомесячна адбываецца падобная «арыфметыка» ў межах прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця народнай гаспадаркі.

Пасля ўвядзення эканамічна абгрунтаванага тарыфу ў насельніцтва з'явіцца моцны стымул для ўстаноўкі лічыльнікаў спажывання вады, прычым сам прыбор пры належным рэжыме эканоміі зможа акупіцца дзесьці за паўгода (канешне, у залежнасці ад яго кошту). Перспектывы, несумненна, заманлівыя: і выйсце з крызісу, і пачатак пераходу камунальнай галіны да бясстратнага існавання і павышэння якасці паслуг. Аднак у радавога спажыўца адразу ўзнікае пытанне: а ці не імкнуцца пад выглядам усіх гэтых абгрунтаваных ідэй проста залезці ў чарговы раз яму ў кішэню? Хутчэй за ўсё гэта, напэўна, менавіта спроба знайсці выйсце пры як мага меншых стратах з боку насельніцтва ў межах чарговага павышэння тарыфаў. Быццам у шахматнай партыі: туды пойдзеш — «з'ядуць» ферзя, туды — шах... Можна, канешне, ісці «па прыморскаму шляху шокавай тэрапіі» (так, дарэчы адазваўся аб метадах нашых прыбалтыйскіх суседзяў вядомы расійскі палітык і эканаміст Ягор Гайдар), аднак тады мы толькі на кватэру і будзем працаваць.

У выніку прапанаванага камунальнікамі павышэння плацяжы, па разліках спецыялістаў, павялічацца на 20—22 працэнты (у летнія месяцы) і да 30 працэнтаў узімку. Тыя ж межы, што і звычайна, але сэнс у іх закладваецца зусім іншы. Праўда, усе названыя вышэй плюсы могуць быць не ўлічаны, і тарыфы зменяцца «як заўсёды» — па розных пазіцыях раскідаюць тыя ж 20—30 працэнтаў.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

ПА ЧУТКАХ І НА СПРАВЕ

# МОШКІ:
## такой навалы, як сёлета, старажылы не памятаюць

**ТОЕ, ШТО Ў МАІ-ЧЭРВЕНІ людзі і жывёла пакутуюць ад машкары — з'ява не унікальная. Аднак такой навалы, як сёлета, многія старажылы Прынёманскага краю, з якімі размаўляў карэспандэнт «Звязды», не прыпамінаюць. Магу сцвярджаць гэта і на ўласным вопыце. Ніколі раней, напрыклад, яшчэ не даводзілася бачыць у Гродне на прыпынку грамадскага транспарту пяць—дзесяць чалавек, кожны з якіх трымае ў руках галінку з бліжэйшага дрэва і адмахваецца ёй ад мошак. Інакш заядуць. А ёсць жа мясцовасці, дзе становішча ў гэтым сэнсе намнога горшае, чым у абласным цэнтры, — непасрэдна ля лесапасадак, вадаёмаў.**

**Асабліва дастаецца цяпер ад машкары жыхарам вёскі. Вось толькі адно сведчанне:**

**— Узяў у суседа каня, каб абагнаць бульбу, але не даў рады закончыць — стаіць, працаваць не хоча. Гляджу — вушы забіты камякамі машкары. Прачысціў, нацёр галаву каня цыбуляй — толькі тады ён зрушыў з месца.**

**У чым жа прычына такога нашэсця мошак? На гэты конт хапае чутак. Сярод іх, у прыватнсці, фігуруюць наступствы чарнобыльскай катастрофы, іншыя рэгіёны былога СССР, адкуль у свой час, маўляў, разам з саджанцамі да нас перакачавалі і мошкі.**

Па тлумачэнні карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да энтамолага Гродзенскага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Галіны Барадзінскай. На Гродзеншчыне яна займаецца пытаннямі энтамалогіі (навука аб насякомых) ужо больш за чвэрць стагоддзя. У 1987 годзе працавала ў Хойніцкім і Слаўгарадскім раёнах. На думку Галіны Антонаўны, у распаўсюджванні мошак няма сувязі з чарнобыльскім «следам» і іншымі чуткамі. Праблема даўняя, з'явілася яна не сёння і не ўчора. Першыя звесткі пра захворванні жывёлы ад укусаў мошак у Беларусі яшчэ ў 1915 годзе прывёў Н. Экерт, а ў 1929 годзе — П. Салаўёў. У 1931 годзе ў Хойніцкім раёне ветэрынарны ўрач Кан упершыню ў Беларусі дыягнаставаў анаплазмоз буйной рагатай жывёлы — захворванне, узбуджальнік якога пераносіцца насякомымі-крывасмокамі. У 1956—57 гадах на Палессі з-за паразітавання мошак адзначана зніжэнне малочнай прадуктыўнасці кароў на 8—20 працэнтаў. Акрамя таго, назіраліся выпадкі гібелі маладняку ад масавых укусаў. Гэтыя і іншыя факты можна пачарпнуць з кнігі Валерыя Капліча і Зінаіды Усавай «Крывасосныя мошкі лясной зоны». Дарэчы, аўтары і самі вывучалі на Палессі, як уплываюць мошкі на прадуктыўнасць дойнага статка. Устаноўлена, што ў сярэднім за 30 дзён у перыяд актыўнасці мошак страты малака на адну карову дасягаюць 40 літраў. Шкода, якую мошкі прычыняюць арганізму чалавека і жывёлы, праяўляецца ў балючых укусах і таксічным дзеянні сліны. Пры інтаксікацыі ёй адбываецца парушэнне ўсіх жыццёва важных сістэм арганізма са змяненнем саставу крыві.

Такім чынам, з улікам гісторыі, быццам бы нічога надта ўжо дзіўнага сёння і не назіраецца. Але, з іншага боку, чаму гэтая праблема становіцца з кожным годам усё больш вострай? Чаму мошка «авалодвае» новымі, раней не вельмі характэрнымі для яе мясцовасцямі?

— Кліматычныя ўмовы сёлетняга года для яе вельмі спрыяльныя, — лічыць Галіна Барадзінская. — Цяпло ў маі і чэрвені, дастатковая колькасць вільгаці — гэта тое, што трэба для ўзнаўлення патомства, да таго ж апошнім часам мошкі «паразумнелі», здолелі вельмі добра прыстасавацца да сённяшніх рэалій. Раней мы лічылі, што яны любяць, як правіла, чыстую, узбагачаную кіслародам ваду з хуткім цячэннем. Для Гродна гэта хіба што Ласасянка, менавіта тут і з'яўляўся асноўны выплад мошак. Цяпер жа яны прыстасаваліся і да Нёмана, практычна ўсіх, нават вельмі забруджаных, вадаёмаў. Лічынкі і кукалкі можна сустрэць усюды, у любым меліярацыйным канале. Дарэчы, у выніку меліярацыі мошак становіцца значна менш, бо знішчаюцца месцы іх выпладу. Аднак гадоў праз 10, як сведчаць даследаванні, іх колькасць аднаўляецца. З гэтым мы цяпер таксама сутыкаемся.

*— У знаёмага нядаўна апухла шчака, кажа, што ад мошкі. Гэта нейкі адзін від такі крыважэрны?*

— Па маіх назіраннях, у нас «арудуюць» 24—27 розных відаў. Прычым дамінуюць цяпер самыя крывасосныя, злыя мошкі, чаго не было раней. Асабліва лютуюць яны гадзін з 7 да 10 раніцы і ўвечары — прыкладна з 18 да 21 гадзіны. У гэтыя часы пры магчымасці варта ўстрымацца ад выпасу жывёлы і асабліва маладняку, які найбольш пакутуе ад укусаў мошак.

*— А ці робіцца санітарная апрацоўка ў месцах выпладу мошак?*

— Раней, за савецкім часам, самыя небяспечныя «ачагі» мы апрацоўвалі мікрабіялагічным прэпаратам «бактакуліцыд». Ён зарэкамендаваў сябе вельмі добра. Каштоўнасць яго ў выбіральным дзеянні, якое не прычыняе шкоды іншым насельнікам вадаёма. Аднак у Беларусі гэты сродак не выпрабляецца, і вось ужо каторы год нашы заяўкі марныя. Адсутнічае, дарэчы, не толькі ён. Айчыннай ліпучай стужкі, у прыватнасці, таксама няма. Мы вымушаны выпрабляць яе самі, купляючы ліпкую масу.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

SOS!

# ДЗЯЦІНСТВА Ў ПАЛОНЕ ЗЛАЧЫННАСЦІ, П'ЯНСТВА, ЖОРСТКАСЦІ І АБЫЯКАВАСЦІ

## *Летась больш за 100 непаўналетніх грамадзян Беларусі скончылі жыццё самагубствам*

**Самымі безабароннымі людзьмі ў Беларусі з'яўляюцца дзеці. Прычым нашы маленькія суграмадзяне нярэдка становяцца ахвярамі ў руках не толькі незнаёмых асоб. З уласных дзяцей усё часцей здзекуюцца бацькі і настаўнікі.**

Аб тым, як абараніць дзяцей ад злачыннасці, п'янства, жорсткасці, людской абыякавасці, ішла гаворка на пасяджэнні калегіі пракуратуры Беларусі.

Рэзка пагоршыўся стан здароўя дзяцей і падлеткаў. Калі сярод навучэнцаў 1—4 класаў у сярэднім 60 працэнтаў складаюць здаровыя дзеці, то ўжо ў 10-м класе каля 90 працэнтаў вучняў маюць розныя хваробы. Летась у Беларусі 38 непаўналетніх сталі ахвярамі забойстваў, 52 загінулі ў дарожна-транспартных здарэннях, 57 — у выніку пажараў.

Больш за 100 непаўналетніх скончылі жыццё самагубствам.

Дзеці не толькі становяцца ахвярамі злачынстваў, але і самі нярэдка парушаюць закон. Зараз на ўліку ў органах унутраных спраў знаходзіцца 17400 непаўналетніх.

Вядома ж, і пагаршэнне стану здароўя дзяцей, і крыміналізацыя падлеткаў, скажам так, ляжаць на сумленні дарослых. І ў першую чаргу бацькоў. На жаль, апошнім часам у нашай краіне расце колькасць так званых «дрэнных» сем'яў. Напрыканцы мінулага года на ўліку ў органах МУС было зарэгістравана 5700 сем'яў, у якіх бацькі — хранічныя алкаголікі, як правіла, зусім не клапоцяцца пра сваіх нашчадкаў, сёлета ж такіх сем'яў у нашай краіне зарэгістравана 6300.

Безумоўна, дзяржава часам проста вымушана бараніць дзяцей ад такіх горабацькоў. Летась судамі было задаволена 2914 іскаў аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў, што ў два разы больш, чым у папярэднія гады.

Зрэшты, і ў дзяржаўных установах дзецям нярэдка таксама даводзіцца сутыкацца з жорсткасцю і абыякавасцю выхавацеляў. На калегіі адзначалася, што падчас пракурорскіх праверак былі ўстаноўлены факты жорсткага абыходжання настаўнікаў са школьнікамі. Падобныя «выхаваўчыя» метады прыводзяць да таго, што дзеці ўцякаюць са школ-інтэрнатаў.

Наогул, у мінулым годзе больш за 2 тысячы дзяцей трапілі ў прыёмнікі-размеркавальнікі. Гэта азначае, што пакінутыя самі на сябе дзеці бадзяліся па краіне ў пошуках лепшай долі. Нярэдка гэтыя пошукі заканчваюцца лавай падсудных. Напрыклад, як адзначалася на калегіі, выхаванцы Гомельскай школы-інтэрната №3 летась учынілі 5 злачынстваў.

Калегія прыняла рашэнне накіраваць Міністэрству адукацыі і Міністэрству ўнутраных спраў прадстаўленні аб выкараненні недахопаў у працы.

Акрамя таго, інфармацыя аб становішчы з абаронай правоў дзяцей у нашай краіне будзе накіравана прэзідэнту і ўраду.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# КРАСА І СІЛА



## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

### Анатоль ГРАЧАНІКАЎ



Няпраўда, што ў літаратуру, асабліва ў беларускую, ідуць людзі з гуманітарнай адукацыяй. Анатоль Грачанікаў пасля заканчэння Гомельскага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту нядоўга працаваў па спецыяльнасці, бо яшчэ школьнае захапленне вершамі ўзяло сваё. Таму і трапіў на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскву, дарэчы, маючы ўжо на рахунку зборнік вершаў «Магістраль» (1964), па-добраму рамантычна-наіўны. Але ўжо наступныя кніжкі: «Круглая плошча» (1971), «Грыбная пара» (1973) адназначна паказалі, што Анатоль Грачанікаў у літаратуры зусім не выпадковы чалавек. Калі карыстацца штампам, дык ён — паэт-грамадзянін, адзін з тых паэтаў, каго і чужыя ўдачы натхнялі на творчасць. А гэтым удачам, асабліва ў маладой літаратуры 70—80-х гадоў, спрыяў сам Анатоль Сямёнавіч, будучы галоўным рэдактарам часопісаў «Вясёлка», «Бярозка», «Маладосць». Менавіта дзякуючы яму з'явілася бібліятэчка маладой беларускай літаратуры пры часопісе «Маладосць». Удзячны і добра памятаю, як ён разам з Жэняй Янішчыц пеставалі і маю першую кніжку.

Скрушна, але Анатоль Грачанікаў трагічна загінуў. 8 верасня яму споўнілася б 60 гадоў — якраз той век, калі да паэта, да чалавека прыходзіць другое дыханне...

Мабыць, паэты сапраўды крыху празорцы. Прадбачыў сваю бяду і Анатоль Грачанікаў. Тым не менш, яго верш «Сосны» — светлы, як самі сосны ў звонкім сонечным бары...

### СОСНЫ

*За вёскай — сосны,*
*Звонкія, як струны.*
*З іх робяць хаты,*
*З іх жа робяць труны.*
*Не будзе бессмяротнай і яна,*
*Мне наканаваная сасна,*
*Аднойчы*
*Скаланецца свет лясны,*
*На крохкую,*
*Пажоўклую ігліцу*
*Слязой апошняй*
*Скоціцца з сасны*
*Гарачая краплінагка*
*Жывіцы,*
*Адкуль мне ведаць,*
*Дзе яна ўпадзе;*
*Ці на чужыне,*
*Ці у Беларусі?*
*Адкуль мне ведаць,*

*На якой бядзе*
*Я спатыкнуся*
*І не паднімуся.*
*Мне б толькі ведаць,*
*Што агонь калін*
*Зноў грэе зябкі*
*Вечар вераснёвы.*
*Мне толькі б ведаць,*
*Што мой родны сын*
*Сваёй не адцураўся*
*Роднай мовы.*
*Што свет не стаў*
*Выжарынай пустой,*
*Не захлынуўся*
*Прадсмяротным скрыпам.*
*Што ўсё ж хапіла*
*Той сасны маёй*
*Камусьці на калыску*
*Ці на скрыпку.*

**Анталогію вядзе Анатоль СЫС.**

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ТАЛАКА

Заключным акордам разнастайных фестываляў выступае песня «Талака». Яшчэ ў 1984 годзе Леанід Пранчак напісаў верш, а Ігар Палівода палажыў яго на музыку. Аднак супрацоўнікі Белрадыё адхілілі яе, палічылі за нацыяналістычную, у якой ухваляецца беларускі старадаўні звычай — талака. Каб падтрымаць аўтарытэт песні, паэт уключыў яе тэкст (ён мае варыянты) у першы свой зборнік «Першапутак» (1988). На ўсю моц «Талака» загучала ў 1992 годзе: усе выступленні Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга заканчваліся гэтым творам, ён выконваўся на «Славянскім базары» ў Віцебску. Праз год песня «Талака» ажывіла прастору Маладзечна на І фестывалі. І цяпер яна актыўна ўключаецца ў канцэртныя праграмы, заклікае людзей да духоўнага адзінства, згуртаванасці, да супольнай дзейнасці.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




***Верш Леаніда ПРАНЧАКА***

Даўніны незабыўны ўспамін
Прыгадаю сягоння ў журбе...
Што не зможаш адолець адзін, —
Талака дапаможа табе!

Хай руку прывітае рука,
Хай усмешка прагоніць тугу.
Талака, талака, талака —
Наш вясёлы няўрымслівы гурт.

ПРЫПЕЎ:

Талака, талака —
Звычай нашых дзядоў.
Талака, талака —
Сабіраецца зноў.
Талака, талака —

***Музыка Ігара ПАЛІВОДЫ***

Ад зары да зары,
Талака, талака —
Мы з табою сябры!

Мы асілім усё талакой.
Ты заўсёды са мной, я — з табой.
Не пакіне ў бядзе сябрука —
Талака, талака, талака.

Светлай радасці нам не суняць.
Хай да раніцы песні звіняць!
Хай шуміць, як вясною рака, —
Талака, талака, талака.

ПРЫПЕЎ.

# ХТО ПАЕДЗЕ Ў МАЛАДЗЕЧНА?

Якія песні любяць жыхары Беларусі? Якія спяваюць ці будуць спяваць? Пра гэта можна будзе паразважаць падчас фестывалю беларускай песні і паэзіі, які адкрыецца ў Маладзечне праз тыдзень. Хто не трапіць у Маладзечна, той зможа сачыць за фестывалем па тэлебачанні. А «Звязда» ў сваю чаргу абяцае вам расказаць пра тое, што застанецца за кадрам. Бо сёлета газета «Звязда» ў ліку тых, хто забяспечвае фестывалю інфармацыйную падтрымку.

**Кацярына МІХАЛЕНКА.**



# ПРАЕКТ «МЭРЫЯ—2000»

## *Гісторыя ў постацях (вачамі гродзенскага мастака Уладзіміра Качана)*



***Падставай для гэтага інтэрв'ю паслужыла сёлетняя выстава гродзенскага мастака Уладзіміра Качана, якую ён прысвяціў 870-годдзю роднага горада. Яна называлася «Вялікі Гарадзенскі Сабор ІІ тысячагоддзя» (партрэтная галерэя славутых гістарычных асоб XII—XX стагоддзяў). Размешчаныя ў залах былога замка 10 жывапісных работ проста не маглі пакінуць раўнадушнымі гледачоў. З вялізных палотнаў у шыкоўных рамах пазіралі на тых, хто жыве напрыканцы тысячагоддзя, заснавальнікі дынастыі гродзенскіх князёў Усевалад Давыдавіч і ягоная жонка Агаф'я; гродзенскія князі браты Барыс, Глеб і Мсціслаў; каштэлян Давыд Гарадзенскі; Вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык, каралева Бона Сфорца, якая ў 1540 годзе дала Гародні прывілей, паводле якога гарадзенскаму войту і магістрату дазвалялася мець сваю гарадскую пячатку; стрыечныя браты Вялікі князь літоўскі Вітаўт і кароль польскі Уладзіслаў ІІ Ягайла; кароль польскі і Вялікі князь літоўскі Стэфан Баторый; гродзенскія старасты Кшыштаф Пац і Антоні Тызенгауз з прафесарам Жанам-Эмануэлем Жыліберам... Кожны твор суправаджаў кароткі нарыс, які паведамляў самыя асноўныя факты з жыцця і дзейнасці той ці іншай асобы. Вось, напрыклад, што пісалася пра старасту Антоні Тызенгауза: «У канцы XVIII стагоддзя Рэч Паспалітая знаходзілася ў крызісе. Перажывала заняпад і Гародня. І вось у гэты час з 1765 года Гарадзенскім старастам стаў Антоні Тызенгауз. Ён задумаў у кароткі тэрмін стварыць у адсталай земляробчай краіне ўсе галіны прамысловасці. Паводле слоў Ю. Выбіцкага, ён хацеў зрабіць «квітнеючую Галандыю на Нёмане». У Гародню былі запрошаны замежныя спецыялісты... За 15 гадоў Тызенгауз адчыніў у Гародні звыш 20 мануфактур, пабудаваў каля 50 будынкаў, дарогу Гародня—Беласток, адкрыў шэраг школ (будаўнічую, бухгалтарскую, медыцынскую, музычную, кадэцкі корпус), стварыў капэлу, вакальную і балетную трупу Гродзенскага тэатра, заснаваў каралеўскую друкарню, дзе выдавалася адна з першых у Беларусі «Газэта Гродзеньска...»***

**— Шаноўны Уладзімір, мне здаецца, што вас можна павіншаваць з вельмі ўдалым пачаткам праекта. Проста дух захоплівае, калі ўяўляеш, які глабальны, абагульняючы сэнс стаіць за гэтай задумай. Сапраўды, роля асобы ў гісторыі вельмі значная. Што вас падштурхнула да такой работы?**

— Я нарадзіўся ў Гродне, ābабег увесь горад басанож яшчэ дзіцем. Таму вы можаце ўявіць, як мне тут усё дорага і блізка. Думаю, што я паступова рухаўся да ажыццяўлення сваёй задумы. Мае духоўныя пошукі адбываліся і ў філалагічнай галіне, у метафізічных сферах, касмічных, я шмат займаўся тэхналогіяй творчасці. Цяпер ранейшыя напрацоўкі рэалізаваліся ў гістарычных палотнах.

**— Зразумела, гістарычная тэма ў беларускім выяўленчым мастацтве ўжо больш-менш асвоеная. Але тым не менш для гэтага патрэбна нямала спецыфічных ведаў па гісторыі. Хто вам дапамагаў?**

— Я супрацоўнічаў з гісторыкам Вячаславам Шведам, які быў маім непасрэдным кансультантам. Дарэчы, кароткія нарысы пра асоб, што суправаджаюць творы, якраз ягоных рук справа. Безумоўна, мне давялося сур'ёзна заглыбіцца ў тоўшчу вякоў, «пераварыць» шмат фактычнага матэрыялу, асэнсаваць і прааналізаваць яго, каб уявіць агульную карціну часу. І ведаеце, я зразумеў, што гісторыя майго горада — гэта гісторыя патрыятызму гродзенцаў, гісторыя прыватнай ініцыятывы... Калі я падзяліўся сваёй задумай з уладамі горада, яны мяне зразумелі, адчулі актуальнасць праекта, сталі дапамагаць у яго ажыццяўленні

**— Напэўна, уладатрымальнікі цяпер у Гродне вольна ці нявольна параўноўвалі сябе з тым жа Тызенгаузам. Бо ў наступным стагоддзі нашчадкі будуць прыгадваць пра цяперашніх гаспадароў горада як пра людзей, якія ўнеслі свой уклад у яго развіццё, альбо тыя згубяцца ў часе, будуць забытыя сваім народам.**

— Такая логіка стваральных спраў. Ва ўсякім разе, у тых, хто стаіць ля руля ўлады ў такі адказны час, напярэдадні новага тысячагоддзя, ёсць шанц. І яны могуць выкарыстаць яго дзеля працвітання Бацькаўшчыны.

**— Калі глядзіш на твары гістарычных асоб, створаных талентам мастака, узяць тых жа Усевалада і Агаф'ю (праўнука Яраслава Мудрага і дачку Уладзіміра Манамаха), то ствараецца ўражанне, што ты ведаеш гэтых людзей. Позірк іх гіпнатызуе, прыварожвае, нават узнікае шалёная думка аб тым, што дух гэтых асоб матэрыялізаваўся ў карціне...**

— Хачу сказаць, што гісторыя захавала нямала сведчанняў пра тое, якімі былі мае героі. Графічны, жывапісны матэрыял. І таму можна мець уяўленне, як яны выглядалі. Нават у старажытным Іпацьеўскім летапісе ёсць адзін радок. Праўда, многія ілюстрацыйныя матэрыялы ўжо папсаваныя часам.

У тых выпадках, калі я не знаходзіў апісанняў, выяў таго ці іншага чалавека, то ішоў па шляху тыпізацыі. Я хадзіў па горадзе, узіраўся ў твары маіх суайчыннікаў, адшукваючы сярод іх найбольш характэрныя. Прынамсі, некаторыя мае знаёмыя, сябры паслужылі прататыпамі для стварэння вобразаў «мужоў» вялікіх Айчыны». Я думаю, што ў гэтым ёсць свая філасофія і праўда.

**— Сярод партрэтаў князёў і каралёў мінулых эпох было нечаканым убачыць партрэт Пятра Сталыпіна. Скажыце, якім чынам ён трапіў у гэту кампанію і каго з дзеячаў нашай эпохі вы мяркуеце паставіць у адзін рад з гэтымі асобамі?**

— Я мяркую спыніцца на XX стагоддзі. Бо цяжка быць аб'ектыўным. Час павінен вынесці свой прысуд. Гісторыкі разбяруцца з героямі і злачынцамі нашага часу.

**— Сорак гадоў — гэта не ўзрост для мастака. Але вы ўжо маеце рэпутацыю добрага прафесіянала, чалавека, які ў творчасці ўвесь час рухаецца наперад, засвойвае ісціны, каштоўнасці, і галоўнае — пастаянна абнаўляецца. Скажыце, на гэтым пакутлівым шляху пазнання што было найбольш складаным?**

— Я сапраўды шмат эксперыментаваў. І цяпер у мяне нямала задумак, ідэй, нават напрацовак. Хочацца па розных тэхналогіях зрабіць праект. Але ўсё гэта я вырашыў адкласці на потым, таму што неабходна завяршыць распачатае. А гэта якраз Вялікі Гродзенскі Сабор ІІ тысячагоддзя. У ім прысутнічае абагульненне. Сам час даў мне гэтае заданне. Як кажуць, прыйшоў час збіраць камяні. Я думаю, што ў бліжэйшы час з'явіцца мноства разных праектаў такога кшталту. Вы ж ведаеце, што нехта збіраецца паўтарыць славуты «Тытанік», па праекту Леанарда да Вінчы адліваюць нарэшце яго славутага «Бронзавага каня». У паветры ўжо вісіць час падвядзення вынікаў. Для выканання свайго праекта я буду выкарыстоўваць і камп'ютэрную графіку, мы ўжо працавалі ў гэтым накірунку са спецыялістамі, калі стваралі плакат да адкрыцця выставы. Выкарысталі вобраз, які мне даўно бачыцца: горад — сабор, саборнае-зборнае... Выкарыстоўваючы гістарычную мадэль Гародні, можна гаварыць пра сусветныя духоўныя праблемы.

**— А якое прымяненне свайму праекту вы бачыце ў тым жа Гродне?**

— У грамадскіх будынках еўрапейскіх сталіц мы бачым шмат работ такога накірунку. Выдатныя майстры Адраджэння, Сярэднявечча адлюстроўвалі на сваіх палотнах герояў свайго часу — палкаводцаў, паэтаў, імператараў. Мяне заўсёды ўражваў узровень фіксацыі гісторыі еўрапейскімі мастакамі. Калі бачыш падобныя творы, што ўпрыгожваюць сцены кангрэсаў, мэрый, разумееш, наколькі свядомасць жыхароў прасякнута духам патрыятызму. Думаю, што прыйшоў час і нам запоўніць прабелы. Таму мае карціны, безумоўна, будуць захоўвацца не ў прыватных калекцыях, яны належаць гораду, яго жыхарам — усім разам.

**— У вас было нямала выставак за мяжой — у Германіі, Польшчы. Напэўна, вы ўдала ўпісаліся ў еўрапейскі мастацкі кантэкст. Але ў той жа Германіі, напрыклад, проста адсутнічае школа, на якой трымаецца класічнае мастацтва. Такое паняцце, як нацыянальнае мастацтва ў еўрапейскім мастацтвазнаўстве ўвогуле перастае выкарыстоўвацца.**

— Я думаю, што да нас з Еўропы гадоў праз пяць паедуць вучыцца маляваць. Бо тое, што робяць сучасныя модныя канцэптуалісты, розныя мадэрністы — гэта спалучэнне чарцяжа з іншымі прыёмамі. Гэта таксама павінна быць у мастацтве. Але я прыхільнік інтэграцыйных працэсаў Захад—Усход. Рознае бачанне гісторыі і ў дадзеным выпадку — гэта спроба заглянуць у будучыню. Калі Бог стварыў нас, яму не было ніякага сэнсу рыхтаваць недарэчны канец для ўсяго чалавецтва. Космас не можа выкарыстоўваць энергію на сляпыя хады.

**— Вам не хацелася б жыць у сталіцы? Бо ўсё культурнае жыццё канцэнтруецца ў нас у цэнтры.**

— Гродна — не правінцыйны горад, а ў пэўным сэнсе і сталіца. Духоўная сталіца. Дарэчы, правінцыялізм — гэта не геаграфнае паняцце, гэта лад думак. Можна быць правінцыялам і жывучы ў Маскве, у Парыжы. Так?

**— Безумоўна. Значыць, вы адчуваеце сябе запатрабаваным чалавекам у тым месцы, дзе жывяце...**

— Самая вялікая ўдача для творцы — гэта адчуваць, што ты не падвешаны ў прасторы, не жывеш па-за часам. І што твой талент рэалізуецца.

**— Скажыце, што для вас, чалавека XX стагоддзя, з'яўляецца духоўнай апорай у жыцці?**

— Я не ўзяў бы на сябе смеласць сказаць, што я веруючы чалавек. Але ў мяне веруючая сям'я, жонка. Як ні дзіўна, але на мяне аказаў уплыў мой малодшы брат Анатоль. Разам з ім мы арганізавалі інстытут духоўных ісцін. Як чалавек XX стагоддзя, я пастаянна вяртаюся душой і думкамі да Бібліі. Актуальнасць тэкстаў Евангелля заключаецца ў тым, што на любым вітку цывілізацыі, пры любым узроўні развіцця тэхналогій узнікае цікавасць да ісцін, закладзеных у гэтай кнізе. Але старажытныя мудрацы казалі, што сасудам для духу з'яўляецца матэрыя.

**— І менавіта пра гэта ідзе гаворка ў Вялікім Гарадзенскім Саборы ІІ тысячагоддзя?**

— Матэрыя, увасобленая ў палатно, фарбы, колер, дае нам магчымасць увасобіць дух персанажаў, якія жылі ў розныя стагоддзі. Мая мэта — аб'яднаць людзей, а не раз'яднаць. Калі так падумаць, то ў адной вялікай зале твар у твар могуць сустрэцца асобы, якія рухалі гісторыю і якія не ведалі адзін аднаго. Я даю ім магчымасць сустрэцца разам, пагаварыць, абмеркаваць усё тое, што засталося нявысветленым і для іх, і для нас.

**Тацццяна АНТОНАВА.**

